*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 22 (609)** **18 ЧЭРВЕНЯ 2003 г.**

## АПОШНІ ЗВАНОК



Выпускны клас Малейкаўскай СШ закончылі сёлета 15 хлопцаў і дзяўчат, па гарадскіх мерках гэта вельмі маленькі клас, але для вясковай школы Брагінскага раёна гэта няблага, калі ўлічыць, што атэстаты сталасці ў раёне атрымаюць толькі 149 выпускнікоў.

Стараста выпускнога класа Малейкаўскай СШ Вольга Жыжэнка (на здымку) вельмі любіць кветкі, якія з задавальненнем вырошчвала на школьным доследным участку. Пасля заканчэння школы дзяўчына вырашыла стаць кветкаводам. Гэтую прафесію яна мяркуе атрымаць, паступіўшы ў Гомельскую прафесійна-тэхнічную навучальню № 34.

**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

*11 чэрвеня 2003 г.*

**Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь**
**сп. Брыгадзіну Пятру Іванавічу**

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

**Шаноўны спадар міністр!**

На вялікі жаль, справакаваны неабдуманымі дзеяннямі Вашага міністэрства канфлікт вакол Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя не толькі не вырашаецца, але распальваецца далей.

Прызначаная на пасаду дырэктара сп-ня Т. Шчарбачэвіч паводле сваіх прафесійных якасцяў не можа і не павінна кіраваць беларускамоўнай навучальнай установай новага тыпу. Прафесійных прэтэнзіяў да калектыву ліцэя і яго фактычнага кіраўніка У. Коласа няма. Абгрунтаваць сваё рашэнне інтарэсамі навучэнцаў і дбаннем пра якасць навучальнага працэсу міністэрства не змагло.

Цяпер, каб абгрунтаваць сваё памылковае рашэнне задняй датай, міністэрства прыслала ў ліцэй комплексную праверку. Але праверка ў час экзаменаў, на якіх занятыя ўсе выкладчыкі, — гэта спосаб аказання ўціску на педагагічны калектыў, бацькоў, а галоўнае дзяцей. Цяжкая і трывожная сітуацыя няпэўнасці ўплывае на вынікі экзаменаў, зрываецца набор новых навучэнцаў. У аб'ектыўнасць праверкі, праведзенай у такіх умовах, паверыць немагчыма.

Мы, як бацькі навучэнцаў і як падаткаплатнікі, маем законнае права на ўлік нашага меркавання пры прыняцці арганізацыйных і кадравых рашэнняў, датычных ліцэя. Нагадваем, што пазіцыя Агульнага бацькоўскага сходу застаецца нязменнай: да кіраўніцтва ліцэя няма прэтэнзіяў па змесце і якасці навучання і па арганізацыі навучальнага працэсу, а значыць, няма ніякіх падставаў рабіць кадравыя змены.

Мы патрабуем:

– пакінуць ліцэй у спакоі хаця б на час выпускных, пераводных і прыёмных экзаменаў і неадкладна спыніць праверку;

– правесці атэстацыю ліцэя ўвосень;

– уключаць прадстаўнікоў Бацькоўскай рады ліцэя ва ўсе праверачныя і атэстацыйныя камісіі.

Па даручэнні агульнага бацькоўскага сходу НДГЛ імя Я. Коласа

**Старшыня сходу** С. Занкевіч.
**Сакратар** А. Варачаева.

# З днём народзінаў, Васіль Уладзіміравіч!

**Вельмішаноўны Васіль Уладзіміравіч!**

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сардэчна віншуе Вас, народнага пісьменніка вядомага ва ўсім свеце, - з Днём народзінаў.

Доўгай была дарога дадому. І дзякуй Богу, што Вы зноў разам з намі, на нашай роднай, спакутаванай зямлі. Мы вітаем Вашае вяртанне з вымушанай эміграцыі і спадзяёмся, што на Радзіме Вам будзе добра сярод сяброў і шматлікіх прыхільнікаў Вашага таленту. Яны Вас запытваюць, шукаюць, чытаюць. Прыслухоўваюцца да Вашага мудрага слова.




**Медаль на гонар грамадзянскага і жыццёвага вычыну Васіля Быкава. Медальер Уладзімір Мелехаў.**

Праз пераклады Вашых твораў на многія мовы свету, Вас і Беларусь ведаюць далёка за яе межамі.

Жадаем Вам добрага здароўя, моцы і творчага натхнення на доўгія гады жыцця.

З павагай

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"** **Алег Трусаў.**

*Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865**
індэкс выдання

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2003 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)
Каму
(прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар

на газету / часопіс **63865**
( індэкс выдання )

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 3090 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2003 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | X | X | X | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)
Каму
(прозвішча,ініцыялы)

# Мова беларуская мая

*Прывітанне, рэдакцыя газеты "Наша слова".*

*Піша Вам Зяньковіч Аліна, вучаніца 11 класа Івянецкай школы. З Вашай газетай пазнаёмілася нядаўна, і яна адразу вельмі мне спадабалася. Чытаючы "Наша слова", яшчэ раз пераканалася, што жыве беларуская мова, што ёсць людзі, неабыякавыя да лёсу нашай культуры. Я хачу шчыра падзякаваць Вам за Вашу працу! Пад уплывам "Нашага слова" мне таксама захацелася зрабіць свой маленечкі ўнёсак у адраджэнне беларускай культуры. Тым больш, што мяне вельмі турбуе пытанне нашай мовы. Пры дапамозе Вашай газеты хачу падзяліцца сваім поглядам з астатнімі чытачамі. Калі ласка, надрукуйце маё сачыненне ў адным з нумароў "Нашага слова". Буду Вам вельмі ўдзячная!*

***Мова беларуская мая.***
***Ільняная і жытнёвая.***
***Сялянская.***
***Баравая ў казачнай красе.***
***Старажытная, самая***
***Славянская.***
***Светлая, як травы у расе.***
***Вобразная, вольная,***
***Пявучая***
***Мова беларуская мая!***
***П. Панчанка.***

Нараджаецца дзіця. Яно, такое маленькае, такое бездапаможнае, прыходзіць у гэты вялікі, непазнаны для яго свет. Яму патрэбна цеплыня, дапамога, падтрымка. І вось лагодныя матчыныя рукі дакранаюцца да яго, яно бачыць пяшчотную матчыну ўсмешку. І раптам да яго даносяцца нейкія цудоўныя гукі:

***Спі, сыночак, люлі-люлі,***
***Усе птушкі ўжо паснулі.***
***Спі на ручках у матулі,***
***Люлі-люлі. Люлі-люлі.***

Яно яшчэ не разумее, што гэта, але яму прыемна адчуваць, як гэтыя ласкавыя гукі песцяць слых. Ад гэтых слоў вее пяшчотай, яны светлыя і чыстыя.

З цягам часу маленькі чалавечак падрастае. І шчаслівы той, каму запалі ў душу словы першай калыханкі - родныя словы яго зямлі.

На жаль, часта чалавек не можа пранесці праз усё жыццё гэтую калыханку. Шкада... Бо, губляючы родную мову, чалавек губляецца сам. Не разумее ён, што страчвае найкаштоўнейшы скарб, які застаўся ў спадчыну ад продкаў. Не сакрэт, што насельніцтва нашай краіны ўмоўна падзелена на дзве часткі: рускамоўную і беларускамоўную. І ведаеце, чаму першых значна больш, чым другіх? Мне здаецца, не таму, што беларуская мова лічыцца вясковай, і не таму, што людзям не падабаецца размаўляць на ёй. Проста большасць беларусаў не ведае сваёй мовы і не ўмее размаўляць па-беларуску. Ім сорамна прызнацца, што яны не могуць выказаць свае думкі на роднай мове, што валодаюць такім малым запасам беларускіх слоў. Мне крыўдна за маю мову, калі я ўключаю беларускае тэлебачанне. Крыўдна, бо нават дыктары няправільна ставяць націск у словах, калечаць іх. І з-за няведання беларускай мовы, яна здаецца беднай, сухой, непрывабнай.

Але ёсць яшчэ людзі, якія не згубілі сваю нацыянальную годнасць. Яны разумеюць, што толькі мы, беларусы, зацікаўленыя ў адраджэнні нашай культуры. Менавіта яны праводзяць месячнікі беларускай мовы. Увесь верасень прайшоў пад лозунгам "Размаўляй са мной па-беларуску", у кастрычніку нас запрашалі спяваць па-беларуску, у лістападзе - танчыць па-беларуску. Можа, цяпер родная мова зойме пачэснае месца ў нашым жыцці. Можа, мы ўсё ж такі навучымся **жыць па-беларуску**.

На самой справе нашая мова вельмі багатая, мілагучная, выразная. Для таго, каб пераканацца ў гэтым уявіце такую карціну:

Бязмежнае жытнёвае поле. Пад лёгкім ветрыкам каласы схіляюць свае галовы. Яны ціха шэпчуцца між сабою, нібы размаўляюць. І раптам між калосся нешта зазяяла ярка-сінім колерам. Васілёк... Сапраўдны цуд прыроды. Сонечныя промні лашчаць яго пялёсткі, і ён, такі маленькі і адначасова велічны, імкнецца да святла...

А зараз паспрабуйце апісаць гэту ж карціну на якой-небудзь іншай мове. Так прыгожа і мяляўніча не атрымаецца. Бо гэта наша, беларуская прырода, нашы вобразы. І толькі наша мова можа з такім каларытам, вобразнасцю перадаць прыгажосць беларускай прыроды.

А ці ведаеце вы, чаму так прыемна слухаць, як шуміць бор, як спяваюць птушкі, як пераліваецца вада ў рацэ? Бо бор шуміць па-беларуску, і птушкі спяваюць па-беларуску, і вада пераліваецца па-беларуску. Яны бяруць сілы з беларускай зямлі і ўдзячныя ёй за гэта. І толькі чалавек, які нарадзіўся на Беларусі, не хоча размаўляць на мове яго зямлі. Але не застанецца наша маці-краіна адна. Ёсць яшчэ людзі, якія прысвячаюць нашай мове словы:

***Ты будзеш самая светлая,***
***Ты будзеш самая чыстая,***
***Ты будздеш самая белая,***
***Ты будзеш самая-самая.***

*Зяньковіч Аліна, г/п Івянец.*

# Найвялікшы помнік

Гістарычныя помнікі, архітэктурныя помнікі, проста помнікі...

У чым іх сэнс? Пэўна ж, у зберажэнні гісторыі.

Яны раскіданыя па ўсім зямным шары. Але я не буду браць увесь зямны шар - зашмат. Я вазьму маленькі яго кавалачак - кавалачак Усходняй Еўропы - нашу краіну: Мірскі замак, радавую рэзідэнцыю Радзівілаў у Нясвіжы, "Чорны" замак Гальшанскі, Курган Славы, Хатынь, Траецкае прадмесце, Верхні горад у Менску, пляц Перамогі, пляц Незалежнасці так сама ў Менску, "Чырвоны" касцёл Святых Сымона і Алены - Менск, Сафійскі сабор ў Полацку, адна з галоўных сятыняў беларусаў - Вострая Брама, знаходзіцца ў Вільні, помнікі загінуўшым на станцыі метро "Няміга", Чарнобыль - таксама свайго роду помнік.

Працягваць можна бясконца. І гэта толькі тое, што найбольш вядома нам - беларусам. А колькі іх яшчэ, невялікіх, амаль нікому не вядомых, у розных вёсачках ды мястэчках, уздоўж трасаў да магістраляў у розных кірунках?

І ўсе ж такі вернемся да загалоўка. Вось мы і дайшлі да сэнсу гэтага артыкула: "Найвялікшы помнік".

Нехта адразу пачне ўспамінаць розныя старажытныя муры... Але я лічу найвялікшым помнікам мову (любой цывілізацыі, народнасці, краіны). Нязгодныя? Дык давайце паразважаем!

Калі з'яўляецца мова? Зразумела ж, з узнікненнем пэўнага народу. Ці, як сказаў адзін мой сябра: "Як з дрэваў пазлазілі людзі..." Мова будуецца доўга і цяжка. А потым - "Гаспадароў было шмат. Кожны хоча палову. І ў адным з падзелаў згубілася мова!"

Адсюль і гістарычнасць.

Архітэктура...

Возьмем простую цэглу. Майстар-архітэктар спраектуе нешта сваё, непаўторнае, унікальнае, у сваім стылі. І помнікі нашыя гэта пацвярджаюць. А дадзена ўсяго толькі простая цэгла.

Возьмем мову. І ўспомнім вялікія пісьменнікаў. Яны тварылі (і твораць), абапіраючыся на магчымасці, дадзеныя мовай, і ў межах сваёй фантазыі, стылістыкі, ствараючы шэдэўры складаючы іх з маленькіх "цаглінак". А дадзена ўсяго толькі простая мова.

Дадайце яшчэ асаблівасці мовы (мяккасць, мілагучнасць, мелодыку, пявучасць) асаблівасці часу (перыяд у гісторыі і мастацтве) і краіны (уздзеянне на станаўленне культуры) - і атрымоўваецца суцэльны архітэктурны помнік.

З чаго пачынаецца любоў да мовы? Са свядомасці нацыі? Ці, можа, усё наадварот? Хутчэй, для кожнага па-свойму.

Вы лічыце беларускую мову непрыгожай? Вы проста не імкнуліся пачуць яе ад людзей, якія яе ведаюць, ці проста не спрабавалі яе пачуць. А як жа яе другое месца па прыгажосці ў Еўропе? Беларуская мова не модная, не сучасная - скажуць многія. Таксама можна паспрачацца! Зараз на беларускай мове размаўляе якраз моладзь і інтэлігенцыя. А Вы да каго сябе адносіце?

Я Вас пераканала? Ну, то давайце адраджаць нашую мову!

І дай Божа, каб ніколі чалавек не паклаў да гэтага помніка кветкі, як даніну мінуўшчыне!

*Кавалеўская.*

# Дайце піва нацыяналісту!

У сталінскія часы людзей, якія клапаціліся пра Беларусь, пра родную мову, пра сваю культуру, свае традыцыі і свой гонар, называлі нацыяналістамі ці нацдэмамі. І знішчалі як варожы клас.

Паколькі мне таксама хочацца, каб мая Беларусь жыла і квітнела, каб на вуліцах беларускіх гарадоў гучала беларуская мова, каб беларускае тэлебачанне паказвала фільмы на беларускай мове, каб беларусы ганарыліся сваёй гісторыяй, сваімі славутымі продкамі, то я - нацыяналіст. Пры гэтым я паважаю адпаведныя пачуцці прадстаўнікоў іншых нацый, як у нашай краіне, так і за яе межамі, і таму мне зусім не хочацца лічыць беларускую нацыю вышэйшай за іншыя. Яна - роўная з імі.

Як шчыры нацыяналіст, я дапамагаю дзейнасці грамадскага аб'яднання, мэты якога супадаюць з маімі асабістымі памкненнямі - Таварыству беларускай мовы. ТБМ выступае не толькі ў абарону роднай мовы, яно змагаецца за сваё: за сваю дзяржаву, за сваю культуру, за сваю гісторыю, за сваіх вытворцаў... Сярод лозунгаў ТБМ ёсць і такі: "Купляй сваё!"

Я іду ў краму купіць піва і чаго-небудзь да яго. Мне прапануюць "Жигулёвское, "Балтику", "Лидское". Але я шукаю сваё. Маё - гэта тое, дзе маёй мовай напісана. Але такога чамусьці не знаходжу. Раней зрэдку купляў "Лідскае" ці "Крыніцу", дзе хаця б назва была беларускай. Але цяпер ці наклейкі чамусьці памянялі, ці мо ў Магілёў не завозяць піва з беларускімі цэдлікамі. "Лідскае" цяпер "Лидское" "Крыніца" ўжо "Криница". Вось гэтакі "празьнік іскуства" мовы броварнікаў.

А мне хочацца, каб не толькі назва была беларускай, але каб і ўсё астатняе на цэдліку было беларускім. Не "Лідскі піўзавод", а "Лідскі бровар", не "крепость", а "мацунак"... У Магівёве пачалі вырабляць "Машековское". Назва ўжо мяне грэе, нешта сваё тут адчуваецца. Але ж чаму не "Машэкаўскае"?

Безвынікова пратуляўшыся па некалькіх крамах, я купляю "Хмільне". Падтрымаю сваёй капейчынай украінскіх броварнікаў, якія не саромеюцца з братамі-славянамі размаўляць сваёй мовай. Гэта толькі ў нас гатовыя перад замежжам (нават "блізкім") пясок лізаць і ад усяго свайго адрачыцца, каб толькі купілі. Але, як пяе гарадзенскі бард, "ніхто дурную не сватае"

Калі беларускім броварам не патрэбны мой кволы нацыяналістычны рубель, тады мне не патрэбнае іх піва. І гаворка тут, як разумееце, не толькі пра піва...

*Міхась Булавацкі, г. Магілёў.*

# РОЗДУМЫ ПРА НАС

***"Як доўга нам яшчэ да Беларусі..."***

Мне не надта блізкая творчасць Гілевіча, але гэты верш... Бярэ за самае сэрца. Бо ў ім - балючая праўда.

Ці ёсць куды ісці?

Ці ёсць яна - НАША краіна, НАША Беларусь, БЕЛАРУСЬ увогуле?!

Нешта незаўважна.

Балюча, але ой як рэальна.

***"Я буду маліцца і сэрцам, і думамі..."***

Любімы верш.

Пранікнёна пяюць "Песняры"

Хочацца плакаць

Балюча - ***"за родны загон Беларусі..."***

За ўсю нашу гісторыю, за ўсіх нас, за краіну, за такіх кіраўнікоў - балюча.

Ці не сінонімы яны, гэтыя словы, зараз - ***"балюча"*** і ***"Беларусь"***?!

... Настаўніца англійскай мовы маёй малодшай сястры задала зрабіць даклад-паведамленне - пра адну з "постацяў Беларускай мінуўшчыны". Сястра зрабіла - пра Тадэвуша Касцюшку. Рэакцыя настаўніцы: хто такі, "как посмела, тоже мне известный человек". Балюча.

... Чуецца сярод студэнцтва: навошта такая мова, такая неўпарадкаваная. "Ану ее". І нічога не можаш сказаць. Балюча.

... Яшчэ ад знаёмых: навошта мне Беларусь. Расія, Масква - во гэта сур'ёзна. А тут няма чаго лавіць. Зноў нічога не можаш зрабіць. Балюча.

... Але яшчэ горш ад таго, што ёсць людзі, для якіх "беларускасць" - толькі спосаб быць не такімі, як усе, спосаб выдзеліцца. Гэта ж модна зараз, а якая рызыка! Экстрэмальна і неардынарна. І ўсё. А ад беларускага - толькі месца нараджэння і жыхарства.

... Значок " Гавары са мной па-беларуску". Мабыць, толькі для аздобы. Бо па-беларуску... Добра, калі пару слоў ведае. Балюча.

Але бываюць і светлыя моманты, ад якіх радасна. Аднак усведамляеш, што такі момант - адзін на тысячу (а можа, і радзейшы). І ад гэтага - яшчэ больш балюча.

Метро - тут многа цікавых сітуацый.

... Побач са мной - дзве дзяўчыны майго, недзе, узросту. І - на чысцюткай беларускай мове. Радасна. І балюча адначасова: той, хто чуе, здзіўлена пазірае.

... Яшчэ выпадак. Едзе мужчына. Звычайны такі, сярэднестатыстычны інтэлігент няпэўнага ўзросту. Але, відаць, любіць "камунікабельнічаць" (выбачайце за наватвор - сам атрымаўся). Дык вось. Побач з ім садзіцца маладая жанчына, і ён пачынае размову. (Такія размовы я называю транспартнымі. Калі-некалі кожны адчувае асалоду проста так, аб жыцці пагаманіць у транспарце з незнаёмым чалавекам). Такім чынам, размову пачынае - і па-беларуску. Радасна. Але і балюча - адзін такі...

...Вось яшчэ. Справа была летам. Спякота і моцны вецер. Як толькі выходзіш з метро на паверхню - амаль ці не зносіць гарачымі подыхамі прыроды. Муж і жонка, немаладая ўжо пара, падымаюцца з метро. Яна - у шыкоўным капелюшы, з якім, канешне ж, захацелася пагуляць ветру. Галаўны ўбор зрываецца з вызначанага для яго месца і... не вытрымлівае муж: "НА ЧОРТА ТАБЕ ГЭТЫ КАПЯЛЮШ!!!"

Па-беларуску, шчыра, з размахам, з пачуццём! У-у-х! Вось што значыць сіла слоў і моц гукаў. Не тое што радасна - здарова! Але вакол - незадаволены позірк большасці. Зноў зачыняешся. Зноў балюча.

... Яшчэ з назіранняў. Прытрымліваю дзверы пры выхадзе з метро. Чуеш рознае: проста "Спасибо" -звычайна, амаль заўсёды; "Ой, спасіба, дзетанька! Дай табе Бог здароўя!" - радзей і ад бабулек. І раптам зусім нечакана: "Дзякуй, дзякуй вялікі..."

Хочацца ўсміхацца і плакаць адначасова.

Балюча-радасна.

Вось! Знайшла. Гэта і ёсць вызначэнне сутнасці нас.

Гэта і ёсць сінонім да слова "Беларусь"

Але як хочацца, каб было больш "радасна", чым "балюча".

Як хочацца дайсці да "Беларусі"...

*Студэнтка БДТУ Чарнушэвіч Юлія.*

### Да 140-годдзя паўстання 1863 г.

# Божы абранец забранага краю

**Частка 2-я.**

Зараз, калі з Божае ласкі ўсё па ўсталяванню помніка аднаму з нязломных і мужных змагарных барацьбітоў, паўстанцу Фларыяну Даноўскаму, даведзена да

Адкрыццё помніка Фларыяну Даноўскаму на Канябіцкіх могілках 8 верасня 2002 г.

завяршэння, неабходна агледзецца каб узважыць здзейсненае і выказаць належнае.

Зразумела, найбольшую радасць адчуваюць цяпер тыя, хто ўласнаручна спрычыніўся да гэтай высакароднай справы. Тое, што ўзведзены помнік мае пэўныя адхіленні ад зпраектаванага варыянту, сведчыць, як аб няспынным творчым падыходзе да вырашэння розных вобразна-пластычных задач, так і аб няўнасці шматлікіх матэрыяльна-тэхнічных праблем.

Уся пабудова займае каля 21 м. кв., а ў плане мае форму апсіды з закругленнем па-над галавой нябожчыка. Тут, на каменнай горцы, па-за даўнейшым помнікам з польскамоўным тэкстам, усталяваны пастамент з новым, усе надпісы на якім, зразумела – на нашай спрадвечнай, як і зямля гэтая, на ліцьвінскай ці, як цяпер кажуць, "беларускай" мове. Дарэчы, варта зазначыць, што гэты "даўнейшы" з'явіўся недзе ў 30-38 гг. 20 ст. на месцы больш даўняга, які быў падпісаны лацінкай ды надта папсаваны і схаваны пад тоўстым выпнавым тынкам. Зараз ад яго засталася толькі верхняя частка з выяваю лацінскага крыжа і літарамі "S" і "P" абапал яго. Што яны значаць, вызначыць ніхто не бярэцца, як і тое, што пад вапнай. Хай яно застаецца на сумленні тых, хто гэта здзейсніў. Вышэй на пастаменце размешчана гранітная пліта з надпісамі на чатырох баках. На цантральнай, пярэдняй бакавіне тэкст агалошвае наступнае:

***"Тут супачывае мужны барацьбіт, паўстанец ФЛАРЫЯН ДАНОЎСКІ (1825-1902) сябра "Братняга зьвязу моладзі Літвы (Беларусі) 1848 г. удзельнік паўстаньня 1863-1864 г.г.***

***За самааддане служэньне Айчыне, ад расейскіх катаў, двойчы спазнаў Сібіры.***

***Людзі, памятайце сваіх волатаў духу, ганарыцеся імі і будзьце іх годнымі".***

На адваротным баку тэкст інфармуе аб усіх, хто і найбольш чым спрычыніўся да стварэньня гэтага помніка. На правай бакавіне змешчаны лацінкай такія словы:

***"На зваяванай і забранай зямлі, дзе жыцьцё, як падарожжа па чужыне ў смутку і жальбе, толькі каменьні галосяць і вецер вые па-над магіламі".***

Астатняя левая бакавіна, ў адрозненне ад папярэдняй, дзе словы быццам канстатуюць факт трагедыі народу, больш дынамічная. Тут змешчаны два апошнія радкі з верша Янкі Купалы "Зваяваным":

***"...Сьпіце! Мы вашых навек не забудзем магілаў;***

***Збуджаны вамі, мы ўскрэсьлі, мы больш не засьнём!"***

Іх гучанне ўспрымаецца набатам, што агалошвае клятву вернасці і заклікае да стваральнай дзейнасці па адраджэнні зняверанага і знясіленага КРАЮ.

Над гэтай плітою ўзвышаецца белая, як лунь, галава высечаная з мармуру. Гэта і ёсць вобраз самога паўстанца, зроблены паводле афорта Альфрэда Ромэра тут у Каралінове. Побач узвышаюцца два чатырохкантавыя гранітныя слупкі, на яіх утрымоўваецца дах са званічкай і адмысловым кавальскім навершам-аздабленнем: кампазіцыя з салярным знакам і крыжамі.

Спераду на пастаменце красуе выява імклівай геройскай Пагоні, што нясе на мячы сваім святыя словы "GLORIA PATRIA"

Урэшце ў тым, што ўяўнае сталася рэальным ёсць значная заслуга нямногіх ды шчырых ахвярадаўцаў і заклапочаных лёсам Бацькаўшчыны рупліўцаў.

Сярод першых тут належа выказаць асаблівую ўдзячнасць сп. Алесю Міхалевічу ад МІЦа з Менска, як і сп. Таццяне Лецка з Канады, гурту "Пілігрым" ды сп. Міколе Ажгірэвічу з Маладэчна, сп. Людміле Хвясені і пенсіянеру Чарнушчык М.А. з Горадні, спадарам Зміцеру ды Віталю Вінаградавым з Мядзеля, якія і непасрэдным удзелам аказалі значную дапамогу. Сярод другіх, акрамя названых, чынны ўдзел прымалі шмат іншых суайчыннікаў. Гэта найперш сп. Юрась Фурс з Паставаў, які акрамя іншага выканаў і адмысловую кавальскую аздобу, ды сп. Ігар Пракаповіч са сваімі краязнаўцамі з Паставаў. Гэта і мясцовыя: сп. Янка Квяткоўскі з Вязаўшчыны, сп. Эдвард Дангель з Каралінова, спадарыні Лёня і Яня Іватовічы з Канябічаў ды і іншыя добрыя людзі. Пэўную дапамогу аказалі і сп-ры Алесь Гуркоў ды Міхась Лебедзь з Менску, як і сп-ры Войцах Пачкоўскі ды Алесь Высоцкі з Мядзеля. Годную і значную дапамогу на працягу ўсяе працы аказваў сп Аляксандр Галяк з Кабыльнікаў, ды на завяршальным этапе сп. Віктар Гіль з Вілейкі.

Ініцыятар стварэння метарыяльнага комплекса, разам з помнікам Вандзе Ромэр, аўтар праектаў ды непасрэдны выканаўца як скульптуры, так і бальшыні работ сп. Алесь Цыркуноў з Менска ці Чэхаў Мядзельскага р-на.

Усе гэтыя людзі, сваімі дзеяннямі ў гэтай святой справе, выказалі найперш сваю прыхільнасць да Пана Бога, ды глыбокую павагу да нашай Радзімы з яе слыннай і шматпакутнай гісторыяй. Гэта ёсць праява сапраўднага патрыятызму, таму і заслугоўваюць яны пэўна самай высокай хвалы і пашаны ад удзячных суайчыннікаў.

Гэта знак, што "Жыве Беларуь"!

***Мастак Алесь Цыркуноў, верасень 2002 г.***

# Каліноўскі і сучаснасць

У Доме літаратара адбылася вечарына, што была прымеркавана да 165-дзя з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага і 140-дзю паўстання 1863-1864 гг.

Вечарыну, што адбылася ў кабінеце кіраўніка Саюза пісьменнікаў, ладзілі мастакоўская суполка "ПАГОНЯ" і Саюз пісьменнікаў.

У спрэчках ды дыскусіях прынялі ўдзел: Мікола Купава, доктар гістарычных навук Генадзь Кісялёў, Алесь Петрашкевіч, Вечаслаў Шалкевіч (д-р філасофіі), даследчыца Марыя Жабінская, паэты Сяргей Панізнік і Генадзь Тумаш, а таксама спявак Пятро Русаў...

Выступоўцы прыгадалі штрыхі біяграфіі Канстанціна Каліноўскага, які паходзіў з сям'і дробнамаянтковага шляхціца. Першапачатковую адукацыю будучы рэвалюцыянер атрымаў у Свіслацкай павятовай навучальні. Вялікі ўплыў на яго меў старэйшы брат Віктар, які вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, вывучаў на даручэнне Віленскай археалагічнай камісіі старадаўнія беларускія рукапісы...

У 18 год Кастусь паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбурскага ўніверсітэту, які скончыў у 1860 годзе з навуковай ступенню кандыдата права. Разам з братам ён належаў да рэвалюцыйнага гуртка Зыгмунта Серакоўскага і Ярослава Дамброўскага. На радзіму Кастусь вярнуўся ўпартым змагаром супраць царызму...

Кастусь апярэдзіў час, бо ўжо ў 1862 годзе пачаў выдаваць беларускую газету "Мужыцкая праўда". Паплечнікамі ў гэтай справе былі: Валеры Урублеўскі, Фелікс Ражанскі, Станіслаў Сангін. Кастусь сам развозіў выданне па вёсках, раскідваў на дарогах. Ён быў аўтарам і рэдактарам бальшыні нумароў газеты.

Кастусь дзейнічаў пад канспіратыўнымі прозвішчамі Чарнецкі, Макарэвіч, Хамовіч, Хамуцівус...

Агульная колькасць паўстанцаў, палеглых у баях у "Северно-Западном крае", невядомая. Пакараных ваенна-палявымі судамі і без суду было каля 18 з паловаю тысяч. 128 былі павешаныя або расстраляныя, 853 пайшлі на катаргу, 11502 – у высылку.

Што здарылася з Каліноўскім? Які быў яго лёс?

Царскі ваенна-палявы суд вынес пастанову: пакараць правадыра інсургентаў смерцю на шыбеніцы. У часе следчага працэсу і суда Кастусь трымаўся надзвычай мужна. На прапанову аблегчыць свой лёс, назваўшы некаторыя адрасы і імёны, ён адказаў: ***"Калі грамадская шчырасць ёсць добрачынасцю, то шпіёнства апаганьвае чалавека. Усведамленне гонару, уласнае годнасці і таго становішча, якое я займаў у грамадстве, не дазваляюць мне ісці па іншым шляху!"***

Ваенна-палявы суд царскай улады вынес пастанову: пакараць правадыра паўстанцаў смерцю на шыбеніцы. Прысуд быў выкананы 10 (22) сакавіка 1864 году на віленскім гандлёвым пляцы Лукішкі. Слухаючы на эшафоце вырак, у якім кіраўнік паўстанцаў быў названы "дворянином Калиновским", ён выгукнуў: "У нас няма дваранаў, у нас усе роўныя!"

З царскай няволі Кастусь перадаў на волю свой напісаны па-беларуску і звернуты да народу запавет–"Ліст з-пад шыбеніцы";

Паўстанне 1863 году было адным з нешматлікіх у гісторыі XIX стагоддзя прыкладаў, калі купка ўзброеных людзей, абараняючы сваю чалавечую і нацыянальную годнасць, паўстала супраць велізарнай імперыі. Паўстанне Кастуся Каліноўскага патанула ў крыві, а сярод простых людзей мацнела пачуццё нацыянальнай годнасці...

На сённяшні дзень паўстанне К. Каліноўскага і яго постаць недастаткова ўшанавана, бо у Менску ёсць вуліца Каліноўскага, але няма помніка народнаму герою, а са сцяны кінатэатра "Вільнюс" некалькі год таму, знікла шыльда, што абвяшчала наконт назвы вуліцы...

***Аляксей Шалахоўскі, гісторык.***

# У Мазыры перавыдалі "Мужыцкую праўду"

Да 140-й гадавіны паўстання К. Каліноўскага на Беларусі Мазырская моладзевая суполка ТБМ "Харугва" пры дапамозе гомельскай гарадской арганізацыі "Моладзевы цэнтр "Гарт" выдала брашуру, у якой змешчані тэксты сямі нумароў "Мужыцкай праўды" К. Каліноўскага, лісты з-пад шыбеніцы, а таксама іншыя звесткі пра кіраўніка паўстанцаў і ягоных паплечнікаў. Ёсць у кніжцы тэматычныя ілюстацыі. Выданне мне наклад 299 асобнікаў і распаўсюджана сярод жыхароў Мазыра, а таксама перададзена ў гарадскія бібліятэкі.

Суполка праводзіць іншыя цікавыя сустрэчы і імпрэзы. Так, напрыклад:

25 сакавіка сябры суполкі бралі актыўны ўдзел у арганізацыі святочнай імпрэзы, прысвечанай 85-ым угодкам абвяшчэння БНР;

16 траўня ў МДПУ суполка супольна з кафедрай гісторыі зладзіла ўрачыстую вечарыну з нагоды 140-вой гадавіны антымаскоўскага паўстання;

29 траўня суполка пры падтрымцы "Гарту" арганізавала сустрэчу студэнтаў МДПУ з пісьменьнікам Уладзімірам Арловым, а гэтаксама сустрэчу ў адной з гарадскіх бібліятэк, пад час якіх былі прэзентаваныя новыя кнігі Арлова "Краіна Беларусь", "Ордэн белай мышы" (у час другой сустрэчы выступаў і бард Зміцер Бартосік).

***Наш. кар.***

# ЗАПАВЕТ КАЛІНОЎСКАГА

**Словы Алеся Ставера** **Музыка народная**

Хор

**Ве - ка - ва - я дуб-ро - ва днём і ноч - чу шу-міць.**

**Ка-лі - ноў-ска - га го - лас у дуб - ро - ве гу - чыць.**

Векавая дуброва днём і ноччу шуміць.
Каліноўскага голас у дуброве гучыць.

- Гэй, браты-беларусы! Я вам раду даю, -
- Беражыце, браточкі, вы Айчыну сваю.

Хай кукуе зязюля, хай вам ліча гады,
Хто Айчыну шануе, - не зазнае бяды.

Шанаваць трэба мову і бацькоўскі свой род,
Каб не згінуў ніколі беларускі народ.

Векавая дуброва днём і ноччу шуміць.
Каліноўскага голас у дуброве гучыць.

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
**http://tbm.org.by/ns/**

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 16. 06. 2003 г.
Наклад 2200 асобнікаў. Замова № 1478.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 1030 руб., 3 мес.- 3090руб.
***Кошт у розніцу:*** 175 руб. (у Менску - 185 руб.)